№ 14 (3755)

19 лютага 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

АКТУАЛИИ



*Светлана КАЛИНКИНА*

# Что дальше?

**Есть у меня твердое ощущение, что Запад вот уже минимум полгода очень хочет услышать от белорусской оппозиции что-нибудь, помимо лозунга “Долой!”.**

**Политзаключенных должны выпустить. Это требование даже не дискутируется. Но дальше что?**

**С криками “Долой!” идем на выборы в местные Советы. Причем лидеры оппозиционных сил даже не будут баллотироваться, не их уровень. А вот второй эшелон двинет. И если у власти не случится паралич мозга — кто-то даже пройдет. Что дальше?**

**У власти, чтобы ублажить Европу, в рукаве имеется козырная карта — мораторий на отмену смертной казни. Больше того, власть высказывает намерение вести диалог. Вон каким цивилизованным и разумным выглядел на конференции ОБСЕ по интернету представитель Оперативно-аналитического центра! О либерализации говорил. Сказал: “Если надо открутить ржавую гайку, самое тяжелое — с мертвой точки ее сдвинуть. Потом она легче крутится…” Столь “добрые намерения” нельзя не оценить.**

**И, конечно, редактор сайта “Хартия’97” Наталья Радина не могла не расставить точки над “і” (передаю не дословно, а смысл): “Если бы я была в Беларуси, я была бы в тюрьме. Вы — спецслужба, у вас даже символика, как у КГБ в 2010 году. Когда был принят указ о регулировании интернета, наш сайт не только попал в черные списки, но в этом же году был убит основатель сайта Олег Бебенин, редакция сайта дважды была подвергнута обыскам и конфискации всей техники, журналисты, включая меня, редактора, были арестованы… И вы мне будете говорить про какой-то диалог?!”**

**Позиции сторон понятны. Гайку закрутить, потом немного отжать — вот и будет видимость политических реформ. Это с одной стороны. С другой: “Коварные лжецы! Ни одному слову верить нельзя! Долой!”**

**Все правильно, справедливо, не поспоришь. Но очень спорно, на чьей стороне будут симпатии. Потому что у белорусской власти плохонький, но ответ на вопрос “Что дальше?” есть. А у Натальи Радиной, которая в данном случае высказывала позицию белорусского оппозиционно-структурированного большинства, — нет.**

**Оппозиционные политики будут ждать революцию? Промысла Божьего, который устыдит фарисеев? Или сразу метеорит, чтобы снес эту власть прямо с резиденцией?..**

**Можно, конечно, подождать. И даже особо не биться головой в стену, как это происходит в последнее время. Достаточно просто констатировать: “Там не с кем и не о чем разговаривать! Только долой!”**

**Можно выбирать единого кандидата от оппозиции. И, наверное, даже нужно выбирать: вдруг война, а мы без каски… Хотя при сохранении нынешних условий я не вижу смысла его участия в выборах.**

**Но можно все-таки попытаться выработать свою повестку дня. Не конфронтацию как самоцель. Не выживание как самоцель. Не “круглый стол” власть—оппозиция как цель полноценную и достаточную даже при условии обсуждения второстепенных проблем, поскольку с чего-то надо начинать. А свою повестку дня, свой ответ на вопрос “Что дальше?”.**

**За эти годы много написано программ, проектов законов и предложений по изменению действующих, так что ответы вроде бы есть. Но это все — мертвому горчичник. Потому что дальше должны быть конкретные предложения по изменению Конституции. И “круглый стол”, диалог (как хотите назовите) — только по обсуждению условий: как, когда, кто…**

**Сегодня власть говорит, что хочет диалога. Отлично! Оппозиционеры должны это намерение приветствовать, потому что отстаивать сценарии конфронтации — позиция заведомо проигрышная. Главное — о чем договариваться. И, конечно, диалог должен быть не о том, как пройдут выборы в местные Советы или на каких условиях будут регистрировать партии, а о главном.**

**Лукашенко ни на какой серьезный диалог не пойдет?..**

**Не пойдет так не пойдет. В таких условиях даже сподручнее ждать. Потому что это он окажется в проигрышной позиции, это он вынужден будет выступать с позиции конфронтации, с позиции уловок и ухищрений, защиты того, что стране уже костью в горле.**

**Значит, это он будет вынужден объяснять, почему не хочет, чтобы в Беларуси был справедливый суд; почему он за то, чтобы людей, как и теперь, могли выселять принудительно, если на месте их домов кто-то решил строить торговый центр или дорогу… Почему государство не берет на себя обязательство сохранить бесплатное образование хотя бы в пропорции 50 на 50? Почему власть против того, чтобы люди сами выбирали себе руководителей областей, городов, районов? Почему он, Лукашенко лично, не согласен, чтобы Комитет госконтроля занимался исключительно контролем за расходованием бюджетных средств и чтобы в его руководстве обязательно были представители как власти, так и оппозиции, возглавляя ведомство на ротационной основе и присматривая друг за другом?..**

**Оппозиции есть что предложить в повестку дня. Конкретно, по всем болевым точкам. Есть что предложить и власти, и Европе, и белорусам — от пенсионеров до бизнесменов — которые просто не понимают, чего добивается оппозиция, помимо главного поста в стране. А потому считают, что, по большому счету, все это противостояние — схватка за портфели. Избиратели тоже хотят услышать что-то внятное, а не только лозунг “Долой!”. По крайней мере, об этом давно говорят социологи.**

**Ведь проблемы борьбы за власть — это не проблемы большинства. Большинство интересует другое: что дальше?**

ЗАКУЛІССЕ

# Выехалі і… не вярнуліся

Штодня беларускія тэлеканалы паведамляюць навіны з Сочы. І не дзіўна: там адпачывае Аляксандр Лукашэнка, сумяшчаючы катанне на горных схілах з рабочымі сустрэчамі. Але галоўную навіну, як мне здаецца, тэлеканалы схавалі ад гледачоў.

…Калектыў сочынскага санаторыя “Беларусь” узбуджаны і напалоханы. Па адной з версій, яшчэ некалькі тыдняў таму дырэктара санаторыя Георгія Саракашыша і двух яговых намеснікаў выклікалі ў Мінск як быццам падпісаць нейкія паперы, узгадніць планы на бягучы год. Паехалі і… у Сочы больш не вярнуліся. Папаўзлі чуткі: яны знаходзяцца ў адным з беларускіх следчых ізалятараў.

Праўда, афіцыйна тым, хто працуе ў “Беларусі”, да апошняга гаворылі, што Саракашыш і двое яговых намеснікаў знаходзяцца ў доўгатэрміновай камандзіроўцы. Але ж “спецыфічная камандзіроўка” нешта зацягнулася...



Супрацоўніца санаторыя Ірына, якая папрасіла не называць яе прозвішча, распавяла “Народнай Волі”, што ніякіх прыкмет надыходзячай буры не было. Не першы ж раз дырэктара і яго намеснікаў выклікалі ў Мінск. Але вось сенсацыя: днямі з’явіўся новы кіраўнік санаторыя — Уладзімір Рыжанкоў.

Санаторый “Беларусь” у Сочы падпарадкоўваецца Кіраўніцтву спраў прэзідэнта. Санаторый размешчаны ў Цэнтральным раёне Сочы ў дэндрапаркавай зоне, што ў сямі кіламетрах ад чыгуначнага вакзала і ў 35 кіламетрах ад аэрапорта. Месца — супер! Да таго ж санаторый знаходзіцца на тэрыторыі ўнікальнага парку на плошчы больш за 15 гектараў. І, дарэчы, недалёка ад рэзідэнцыі расійскага прэзідэнта.

Нядаўна побач з галоўным корпусам разгарнулася будаўніцтва новых карпусоў. Магчыма, менавіта гэта і стала кропкай адліку ў справе кіраўнікоў санаторыя, лёс якіх пакуль невядомы.

У Следчым камітэце Рэспублікі Беларусь “Народнай Волі” паведамілі, што крымінальнай справы супраць былога дырэктара сочынскага санаторыя ў іх няма. Пракуратура таксама адмовіла сваю датычнасць да гэтага скандалу. У трэцяй структуры, з падачы якой магла быць распачата гэтая справа, — Камітэце дзяржаўнай бяспекі — традыцыйна адказвае толькі тэлефон даверу. Па ім можна нешта паведаміць “камітэтчыкам”, а вось даведацца ад іх хоць пра што-небудзь практычна немагчыма.

Заўважым, размова ў дадзеным выпадку ідзе пра расійскіх грамадзян. Георгій Саракашыш, які шмат гадоў узначальваў беларускі санаторый у Сочы, — не проста чыноўнік, ён уганараваны званнем “Выдатнік аховы здароўя Расійскай Федэрацыі”. Магчыма, у амбасадзе Расіі нешта ведаюць пра лёс былых кіраўнікоў “Беларусі”?

Аказваецца, і там нічога не ведаюць. Нам адказалі, што консула па справе кіраўнікоў беларускага санаторыя да следчых не выклікалі. Гэта, праўда, яшчэ ні аб чым не гаворыць: згодна з працэдурай, калі самі арыштаваныя не настойваюць на ўдзеле консула, то яго ніхто і не павінен турбаваць.

У рэшце рэшт мы патэлефанавалі ва ўпраўленне сацыяльна-культурнай сферы і турызму Кіраўніцтва спраў прэзідэнта. Намеснік начальніка Алег Міхайлаў “адшыў” злёту: *“А што вы тут вышукваеце? Лепш нешта добрае напісалі б пра дзейнасць санаторыяў. Пакуль жа нічога пра гэтую справу на афіцыйным узроўні я вам сказаць не магу…”*

Дарэчы, некалькі дзён таму з’явілася афіцыйная інфармацыя пра ўзбуджэнне крымінальных спраў у дачыненні да некаторых асоб, звязаных з Кіраўніцтвам спраў. Але ці сапраўды меліся на ўвазе Саракашыш і яго падначаленыя, не вядома.

Тым часам 15 лютага Аляксандр Лукашэнка, знаходзячыся ў Сочы, абавязаў кіраўніка спраў Віктара Шэймана паскорыць будаўніцтва ў Сочы і Краснай Паляне. Так і сказаў: *“Пытанне адно: нам трэба скончыць пачатую справу, скончыць усе гэтыя будоўлі. Трэба зрабіць усё, каб санаторый у Сочы прывесці ў парадак”.* Пра лёс былых кіраўнікоў санаторыя ён нічога не сказаў.

Цікава, калі ж стане нешта вядома пра лёс ужо былога дырэктара санаторыя “Беларусь” у Сочы Георгія Саракашыша і двух яго намеснікаў?

**Любоў ЛУНЁВА.**

## *«Не видать тебе Родины...»*

Летом этого года должен пройти очередной Съезд белорусов мира. Однако многие белорусы, живущие за границей, вряд ли смогут на него приехать, так как белорусские посольства отказывают им в открытии визы. Например, руководитель Общества белорусской культуры в Вильнюсе Федор Нюнька упорно добивается, чтобы ему хотя бы объяснили, почему он стал невъездным на Родину.

Федор Нюнька с 1943 года живет в Вильнюсе, но остался белорусом. Благодаря его усилиям в Вильнюсе установлены памятники на могилах белорусских деятелей, открыты мемориальные доски Франциску Скорине, Кастусю Калиновскому, Янке Купале и другим знаменитым соотечественникам. В конце прошлого года Федору Нюньке отказали в выдаче въездной визы в Беларусь.

Нюнька полагает, что его сделали невъездным на родину за то, что он открыто выступает против нынешних белорусских порядков и стоит на позициях радикальных перемен, которые должны произойти в Беларуси, чтобы она стала европейской страной, а не изгоем перед всем миром, как это происходит сегодня.

**Елена НОВИКОВА.**

## *Савет ААН па правах чалавека разгледзіць сітуацыю ў Беларусі*

З такой прапановай выступіў Еўрасаюз. У спецыяльнай пастанове Савета ЕС гаворыцца, што беларуская сітуацыя з правамі чалавека будзе адным з галоўных прыярытэтаў Еўрасаюза на сесіі Савета ААН па правах чалавека. Гэтая сесія адбудзецца ў чэрвені 2013 года.

Кіраўнікі МЗС краін ЕС прынялі гэтую пастанову нават без абмеркавання. Пасяджэнне прайшло ў панядзелак у Брусэлі.

З-ЗА КРАТАЎ

# Аўтуховіч не скардзіцца на ўмовы. За яго гэта робяць іншыя

Альвіна Дрыга, адвакат палітвязня Мікалая Аўтуховіча, які ваяваў у Афганістане, у так званы Дзень афганца наведала свайго падабароннага ў Гродзенскай турме.

Там яна даведалася ад турэмнай адміністрацыі, што ў пракуратуру нехта накіраваў скаргу аб тым, што Мікалая Аўтуховіча трымаюць у кепскіх умовах і не аказваюць своечасова медыцынскую дапамогу. Мікалай патлумачыў адвакату, што сам скаргаў не пісаў, але разумее людзей, якія за яго хвалююцца, і вельмі ўдзячны ім за тое, што яны такім чынам спрабуюць яму дапамагчы.

Насамрэч, праблем у палітвязня ў турме даволі шмат. Натуральна, турма не санаторый, але там няма нават больш-менш нармальнага харчавання і медыцынскага абслугоўвання. Мікалай Аўтуховіч мае магчымасць выдаткаваць у месяц не больш за 100.000 рублёў на розныя пакупкі, але што можна набыць за такія грошы ў турэмным шапіку? Садавіна там увогуле адсутнічае, няма нават яблыкаў. У рацыёне ж асуджаных садавіна і гародніна не прадугледжаны. Атрымліваецца, што і за свае грошы купіць іх нельга, і ад сваякоў атрымаць — таксама.

Што да медыцынскага абслугоўвання, дык Мікалаю Аўтуховічу, які пакутуе ад боляў у пазваночніку, давялося проста дабівацца магчымасці спаць на роўнай паверхні. Для гэтага ён усяго толькі прасіў выдаць яму драўляны шчыт. На вырашэнне гэтага пытання спатрэбіўся… год. Доўгачаканы шчыт выдалі толькі цяпер, у лютым. Але за гэты час сітуацыя настолькі пагоршылася, што Мікалай з-за боляў у спіне ўжо месяц не ходзіць на шпацыр. Каб уявіць сабе ў поўнай меры ступень “клопату” турэмных медыкаў пра яго персону, дастаткова сухой статыстыкі: з 40 выпадкаў выкліку ўрача той прыйшоў да палітвязня толькі шэсць разоў.

Пры гэтым далёка не ўсе лісты, якія дасылаюць палітвязню, трапляюць яму ў рукі. Раздрукоўкі артыкулаў з інтэрнэту не даходзяць ніколі. Адзіны шанц, што Аўтуховіч іх атрымае, — перапісаць матэрыялы ад рукі.

Адвакату ўсё ж давялося падаць скаргу на турэмную адміністрацыю, калі яна даведалася, што яшчэ летась, у кастрычніку, Аўтуховічу была абвешчана вымова за тое, што асуджаны не рэагаваў на заўвагі кантралёра. Сам палітвязень сцвярджае, што ніякіх заўваг кантралёр яму не рабіў. І пра спагнанне ён даведаўся не ў кастрычніку, а 15 студзеня, калі пракурор Гродзенскай вобласці наведаў яго камеру. Мікалай напісаў скаргу, што дзеянні адміністрацыі ў дадзеным выпадку былі незаконнымі, але гэта не дало плёну.

Нягледзячы на ўсё, Мікалай Аўтуховіч не губляе аптымізму. Ён атрымлівае шмат лістоў падтрымкі, прычым большую колькасць лістоў палітвязень мае ад суайчынніц. Мікалай Аўтуховіч абсалютна перакананы, што змены да лепшага ў нашай краіне могуць адбыцца дзякуючы жанчынам.

**Дар’я СОЛТАН.**



## *Харашці: «Я зацікаўлены ў тым, каб непрадузята паказаць сітуацыю ў Беларусі»*

Спецдакладчык па сітуацыі ў Беларусі Савета па правах чалавека ААН Міклаш Харашці на сустрэчы з беларускімі журналістамі ў Кіеве заявіў, што ён не можа трапіць у Беларусь.

Паводле слоў Харашці, падчас працы над дакладам, які павінен быць прадстаўлены на сесіі СПЧ у чэрвені гэтага года, ён пакуль змог сустрэцца толькі з прадстаўнікамі грамадзянскай супольнасці Беларусі. Прычым усе сустрэчы праходзілі за межамі Беларусі, бо афіцыйны Мінск не прызнае яго мандат спецдакладчыка і не дае дазволу на візіт у краіну.

Цяпер Харашці чакае адказу на свой чарговы зварот за беларускай візай.

SOS!

***21 лютага адзначаецца Міжнародны дзень роднай мовы. Да гэтай даты Нацыянальны статыстычны камітэт Рэспублікі Беларусь апублікаваў статыстычны агляд. Лічбы красамоўныя: такога заняпаду беларуская мова яшчэ не ведала.***

## *Па-беларуску навучаюцца 0,2% студэнтаў*

У аглядзе прадстаўлены звесткі пра стан беларускай мовы ва ўстановах адукацыі — ВНУ, школах і дзіцячых садках. Калі глядзіш на лічбы, робіцца зразумелым, чаму апошнім часам Міністэрства адукацыі імкнулася не агалошваць гэтую статыстыку, абыходзілася толькі адным паказчыкам — 51% агульнаадукацыйных школ краіны — беларускамоўныя. Але ўсім было зразумела — гэта школы вясковыя, дзе напаўняльнасць нізкая, таму рэальна навучаецца на роднай мове малая колькасць вучняў. Статкамітэт даныя “рассякрэціў”.

Што атрымліваецца?!

У 2012—2013 навучальным годзе беларускамоўныя садкі наведваюць каля 45 тысяч дзяцей. І гэта ўсяго толькі 11,4% ад усіх дзетак, якія ходзяць у садкі. Дашкалят у групах з рускай і беларускай мовамі — каля 15 тысяч (3,8%).

Беларускамоўных школьнікаў сёлета — 151 тысяча. І гэта — увага — толькі 16,4% ад усіх вучняў краіны! Напэўна, дзівіцца няма чаму: напрыклад, у 400-тысячным Магілёве, дзе ў 43 сярэдніх школах і чатырох гімназіях атрымліваюць адукацыю каля 33 тысяч дзяцей, толькі адна дзяўчынка — Ялінка Салаўёва — вучыцца па-беларуску!

Зусім жахлівая сітуацыя ва ўстановах сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай адукацыі.

Ва ўчылішчах і каледжах вучацца па-беларуску 1400 чалавек (0,9%). Яшчэ каля 22 тысяч (14,6%) навучаюцца на дзвюх мовах. Студэнтаў, якія атрымліваюць адукацыю ў Беларусі на роднай мове, усяго толькі каля 700 чалавек. І гэта 0,2% ад усіх навучэнцаў вышэйшай школы. Яшчэ каля 160 тысяч студэнтаў (37,4%) навучаюцца і па-руску, і па-беларуску.

Такім чынам, можна падлічыць, што сёння агульная колькасць беларускамоўных навучэнцаў у дзіцячых садках, школах, ПТВ і ВНУ не складае і 200 тысяч чалавек.

Дарэчы, агляд да Міжнароднага дня роднай мовы той жа статыстычны камітэт апублікаваў на рускай мове.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ПОЗДРАВЛЕНИЕ

## *Кристину Валерьевну Дубовскую с днем 16-летия!*



Дед Валера, дядь Юра, кошка Ася.

ХАКЕЙ

# Вынік — плачэўны

***Чарговыя правалы беларускіх хакеістаў ужо выклікаюць адкрытае абурэнне і заўзятараў, і спецыялістаў.***

Як вядома, зборная Беларусі па хакеі праляцела міма сочынскай Алімпіяды. У дадатак да гэтага клуб “Дынама-Мінск” не выйшаў у плэй-оф Кантынентальнай хакейнай лігі. У апошнім матчы рэгулярнага чэмпіянату КХЛ мінскае “Дынама” саступіла права гуляць у Кубку Гагарына “Атланту”. Такім чынам, “зубры” не выканалі асноўную з пастаўленых перад імі на сезон задач — не змаглі заваяваць пуцёўку ў плэй-оф.

Праблемы беларускага хакея сёння абмяркоўваюць і спецыялісты, і заўзятары. Галоўны рэдактар спартыўнага штотыднёвіка “Прессбол” Уладзімір Беражкоў заявіў прама і рэзка: *“Мы вырашылі, што знаходзімся наперадзе ўсёй планеты, і пасадзілі наш хакей на тлустую іглу. Зараз ён, як наркаман, патрабуе новай і новай дозы. І сёння вельмі складана без лятальнага зыходу спыніць гэты працэс. Таму, калі ў нас сфарміравалася група па падрыхтоўцы да алімпійскай кваліфікацыі ў Военсе, першае, што яны вырашылі, — сфарміраваць прэміяльны фонд у паўмільёна долараў за выхад на Гульні”.*

Чуткі пра тое, што беларуская хакейная зборная за выхад на сочынскую Алімпіяду патрабавала паўмільёна долараў, актыўна ходзяць па Мінску. У адказ Федэрацыя хакея Беларусі на сваім афіцыйным сайце выказала здзіўленне з нагоды гэтай інфармацыі. *“Ад імя хакеістаў зборнай каманды Беларусі і трэнерскага штаба Федэрацыя хакея Беларусі кампетэнтна заяўляе, што нацыянальная зборная каманда Беларусі па хакеі не вылучала патрабаванні аб прэміяльных за ўдзел і выхад каманды на Алімпійскія гульні-2014. Для ўсіх хакеістаў, якія прыбылі ў размяшчэнне нацыянальнай зборнай і якія бралі ўдзел у алімпійскай кваліфікацыі, выступленне за сваю краіну было справай гонару, а не грошай”,* — гаворыцца ў паведамленні прэс-службы ФХБ.

Як бы там ні было, але “поспехі” беларускага хакея відавочныя. І гэта пры той несуразмернай з іншымі відамі спорту падтрымцы, якую маюць лядовыя дружыны.

Нагадаем, што яшчэ тры гады таму, калі ўсе альбо маўчалі, альбо пляскалі ў далоні, “Народная Воля” першай выступіла з крытычным матэрыялам аб стане беларускага хакея. Ён называўся “Хоккейное бремя страны”. Трэба адзначыць, што праз вельмі кароткі тэрмін пасля выхаду артыкула Аляксандр Лукашэнка правёў нараду з аналізам таго, што адбываецца ў беларускім хакеі, і размова на ёй была вельмі рэзкай. Але вынік, як мы бачым, плачэўны.

**Алег СНОЎ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
19 ЛЮТАГА 2013 г.

НАДВОР'Е

## І ўсё ж такі гэта люты

Праз тэрыторыю Польшчы будзе перамяшчацца цыклон, які павольна рухаецца на Карпаты. Менавіта ён і вызначыць умовы надвор'я. Па словах метэаролага **Дзмітрыя Рабава**, у аўторак на большай частцы тэрыторыі краіны чакаецца снег, месцамі магчымая слабая мяцеліца. Тэмпература паветра ўначы складзе 3—9 градусаў са знакам мінус, пры праясненнях да мінус 10—15. Днём чакаецца ад нуля да 7 градусаў марозу.

У сераду і чацвер на большай частцы тэрыторыі Беларусі таксама будзе ісці снег. На асобных участках дарог захаваецца галалёдзіца. Уначы прагназуецца да 9 градусаў марозу. 20 лютага па ўсходзе, а 21 лютага па поўначы краіны ў начны час чакаецца да мінус 10—15 градусаў. А вось днём тэмпература паветра будзе вагацца ад 5 градусаў марозу да 1 градуса цяпла, на поўначы слупок тэрмометра апусціцца да мінус 8.

У канцы тыдня ўплыў цыклону паступова пачне слабець. І ўжо ў пятніцу па паўночнай палове Беларусі ападкі спыняцца, толькі ў асобных раёнах на поўдні краіны магчымы снег, але кароткачасовага характару. Тэмпература паветра ўначы складзе 3—10 градусаў марозу. Днём чакаецца ад нуля да 6 градусаў са знакам мінус. Праўда, на поўначы Беларусі будзе халадней: уначы мінус 11—15, днём 7—9 градусаў марозу.

Што тычыцца будучых выхадных, то вялікая частка нашай краіны апынецца пад уплывам скандынаўскага антыцыклону, таму будзе пераважна без ападкаў, толькі ў крайніх паўднёва-заходніх раёнах магчымы невялікі кароткачасовы снег. У начны час сутак тэмпература паветра складзе 7—12 градусаў марозу, пры праясненнях слупок тэрмометра апусціцца да 14—18. Днём прагназуецца ад 4 да 9 градусаў марозу.

ТОЛЬКІ ЛІЧБЫ

## 42 тысячы беларусаў атрымалі «карту паляка»

*Гэтую лічбу назвала Міністэрства замежных спраў Польшчы.*

Грамадзяне Беларусі займаюць другое месца сярод замежнікаў па колькасці тых, хто атрымаў "карту паляка" з моманту яе ўвядзення ў 2008 годзе. На першым месцы ўкраінцы, якія атрымалі каля 46 тысяч "карт паляка". Грамадзянам Расіі было выдадзена 2700 такіх дакументаў. Пры гэтым у Беларусі атрымліваць "карту паляка" забаронена ўсім, хто звязаны з дзяржаўнай службай.

АЛЬТЕРНАТИВНЫЙ ВЗГЛЯД

# Господин премьер, вы слукавили...



Вы лично за прошлый год стали жить лучше или хуже? А ваши соседи? А страна? Тем временем правительство вновь отчитывается об успехах.

Премьер-министр Михаил Мясникович, выступая на заседании Совета министров, заявил следующее: *"В 2012 году нам удалось решить ряд системных задач. Восстановлены и возросли денежные реальные доходы населения, достигнута целевая прибыль и рентабельность производства, а это значит, что выплачены реально заработанные деньги. Обеспечена внешняя и внутренняя сбалансированность экономики, чистый прирост валюты в страну составил 3,2 миллиарда долларов, бюджет исполнен без дефицита..."*

Бравурные речи главы правительства мы попросили прокомментировать экономиста **Антона БОЛТОЧКО.**

— То, что премьер называет "внешней и внутренней сбалансированностью", на самом деле стоит назвать разбалансировкой экономики.

Во-первых, выполнение и перевыполнение некоторых прогнозных показателей было достигнуто за счет льготных условий поставки нефти из Российской Федерации и последовавшей за этим активизации экспортной схемы "растворители-разбавители/биотопливо".

Во-вторых, рост реальной заработной платы на 21,9 процента сопровождался ростом производительности труда всего на 4 процента. А это означает, что рост заработной платы является искусственным и был обеспечен эмиссионными источниками. Таким образом, рублевая денежная масса за год увеличилась на 64,7 процента.

В-третьих, несмотря на высокие процентные ставки по кредитам, в 2012 году была продолжена кредитная эмиссия (в том числе использовались кредиты по льготным ставкам). Прирост требований банков к экономике составил 69,5 процента.

В-четвертых, инвесторы до сих пор не видят надежности инвестиций в Беларусь. Фактическая национализация ОАО "Коммунарка" и ОАО "Спартак" в очередной раз создала негативный образ Беларуси в глазах инвесторов. По итогам года привлечено всего 1,2 миллиарда долларов прямых иностранных инвестиций. Это очень мало.

В целом в экономике Беларуси в 2012 году наблюдались явные дисбалансы в реальном (зависимость от нефтеперерабатывающей промышленности) и финансовом (сохранение денежной и кредитной эмиссий при высоких процентных ставках) секторах.

Помимо подведения итогов года премьер-министр Михаил Мясникович в очередной раз поднял тему модернизации и низкой эффективности инвестиционных проектов. Проблемные области определены премьером верно. Его слова можно подтвердить данными Всемирного банка и МВФ, согласно которым с 2000 года объем валового накопленного капитала увеличился в 4 раза, а отдача от него осталась примерно на уровне десятилетней давности.

Сроки окупаемости инвестиционных проектов также становятся основанием для волнений. Не совсем ясно, о каком периоде окупаемости говорил премьер, тем не менее проект с окупаемостью свыше 3 лет иностранный инвестор будет рассматривать как непривлекательный. В первую очередь это связано с общемировой тенденцией сокращения инвесторами сроков вложения средств в проекты.

Говоря о решениях, Михаил Мясникович выступил неудачным "кулинаром". С целью повышения эффективности им были выделены пять приоритетов: интеграция с ведущими мировыми компаниями; развитие частного и частно-государственного сектора; жесточайший спрос с руководителей; господдержка проектов; поощрение представителей корпуса региональных и республиканских руководителей. Это винегрет. В основном наполненный главным ингредиентом — активным участием государства во всем. В то же время, как отметил сам премьер-министр, до этого времени государство выступало не лучшим распорядителем государственной собственности. Так что решения проблем по-прежнему нет.

ДЛЯ СВЕДЕНИЯ

**Антон БОЛТОЧКО** — эксперт по экономике, стратегическому и инновационному менеджменту ОО "Дискуссионно-аналитическое сообщество "Либеральный клуб".

Победитель университетских, республиканских и международных научных и практических конференций по экономике и менеджменту. Окончил факультет технологий управления и гуманитаризации БНТУ по специальности "менеджмент". Сейчас обучается в магистратуре факультета международных отношений БГУ.

Является учредителем и директором частного консалтингового унитарного предприятия "Семейная компания", занимающегося разработкой и реализацией конкурентных стратегий на внутреннем и внешнем рынках.

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

# Хто з кім ваюе? І ваюе дзеля чаго?

### Адкрыты ліст галоўнаму рэдактару газеты «Народная Воля» Іосіфу Сярэдзічу

Паважаны спадар галоўны рэдактар!

Яшчэ колькі дзён таму ў мяне не было намеру звяртацца да цябе ў гэткай вось форме — форме адкрытага ліста. Меўся, наадварот, іншы план — напісаць для "Народнай Волі" невялікае эсэ пад такой прыблізна назвай: "Мы ў вачах свету" (варыянт: "Свет глядзіць на нас"). Задума ўзнікла ў сувязі з амаль рэгулярным з'яўленнем апошнім часам у розных СМІ публікацый, звязаных так альбо інакш з беларускай тэмай.

І, магчыма, пачаў бы я эсэ са спасылкі на ярка пададзеную (першая паласа, адпаведны шрыфт) у тваёй газеце інфармацыю: "Папа Рымскі блаславіў беларусаў". Затым, мабыць, пракаментаваў бы інтэрв'ю з чэшскім драматургам, акцёрам і хрысціянскім кінематаграфістам Атакарам Шмітам, апублікаванае ў газеце ТБМ "Наша слова" ("Беларуская мова — гэта такая сіла!"). Адзначыў бы абавязкова цікавы дыялог Міхася Скоблы ў перадачы Радыё Свабода са знакамітым польскім кінарэжысёрам італьянскага паходжання Кшыштафам Занусі (гэтыя ж словы "сіла", "трываласць" і іншыя). Ну і, вядома, спыніўся б на змешчанай у пераднавагоднім нумары "Народнай Волі" гутарцы Ірыны Мальцавай з былым амбасадарам Швецыі ў Беларусі, нашым вялікім, верным сябрам Стэфанам Эрыксанам ("Ганарыцеся тым, што вы беларусы!"). Выдзеліў бы, у прыватнасці, наступныя яго словы: *"Пажадаць я хачу больш добразычлівасці адзін да аднаго ў новым годзе! Крытыкуйце іншых, але рабіце гэта прыстойна і без злобы... Хібы шукаць трэба перш за ўсё ў самім сабе".*

Здаецца, нядрэнна складвалася ў галаве эсэ "Свет глядзіць на нас". І, мабыць, магло ўжо ляжаць на тваім рэдактарскім стале. Ну ды — ты на гару, а чорт за нагу — прыйшлося адкласці пачатую справу і пісаць гэты адкрыты ліст. У чым справа?

Разгарнуў нумар "Народнай Волі" за 25 студзеня г.г. З аднаго боку (з адной паласы), узрадаваўся публікацыі "С любовью к Беларуси" — гутарцы Марыі Эйсмант з незвычайным госцем, французам Мішэлем Буішэ; узрадаваўся таму, як ён — не прафесійны палітык, не дыпламат, не навуковец-этнолаг, а звычайны паштовы служачы, просты, ці, як ён сам кажа, "карэнны француз", — з якімі разуменнем і спагадай гаворыць пра нашу моўную сітуацыю, як успрымае нас, беларусаў. *"Толерантные, не грубые, любезные. В отношениях между собой искренние...".* Гэта з аднаго боку. Станоўчага. А з другога (з другой газетнай паласы) — збянтэжыла пададзеная кідка, з размахам, пад рубрыкай "Рэха канфлікту" і з пазнакай "Ад рэдакцыі" публікацыя зусім іншага плана — ваяўнічая заява Васіля Якавенкі. Надрукавана яна пад загалоўкам "Перакулены свет Парнаса, альбо Чаму я спадзяюся на аднаўленне ў шэрагах Саюза беларускіх пісьменнікаў". Ды па-сапраўднаму заяву трэба было б назваць інакш. Як? Там — "С любовью к Беларуси", а тут — з нелюбоўю і непавагай аднаго беларуса да другога.

Далібог, Іосіф Паўлавіч! Ты ж, пэўна, адзначыў, не мог не адзначыць, падпісваючы матэрыял да друку, як яго аўтар ставіцца да гэтых самых "парнасцаў", сваіх калег па пяры, як выглядае ў ягонай, насмешліва-карыкатурнай інтэрпрэтацыі пасяджэнне Рады СБП. Не інакш, выходзіць, як сходка зламыснікаў, варожа настроеных у дачыненні да аўтара "Пакутнага веку". Зусім не "толерантные", далёка не "любезные" і "не искренние в отношениях между собой" яны, сябры Рады, неяк дзіўна *"заходзяць і рассаджваюцца па радах у невялічкай прадаўгаватай зале".* Некаторыя вітаюцца, некаторыя — не. Галовы ў некаторых апушчаныя, а *"адзін дык наогул збег, каб не сустракацца са мной вачыма".* Словам, чамусьці не выказваюць яны, зламыснікі, гарачага жадання скарыстаць *"дадзены ім шанц"* і з прабачэннем выправіць свой *"грубы пралік",* сваю, вядома ж, не менш грубую *"памылку".* (Сапраўды, нейкі перакулены з ног на галаву свет... Хто тут каму і які дае шанц? Пра чые пралікі, памылкі павінна ісці насамрэч гаворка?) Мала таго, гэтыя *"радаўцы"* (эпітэт В.Якавенкі) задаюць яшчэ нейкія *"няўцямныя"* пытанні. А некаторыя хоць і спрабуюць *"змякчыць" атаку агрэсіўнага крыла",* ды тут жа падтрымліваюць прапанову — **пакаяцца** (падкрэслена чорным у заяве). Пакаяцца так, як некалі змушалі гэта зрабіць сярэднявечныя інквізітары Яна Гуса. Так, так, аўтар заявы на поўным сур'ёзе параўноўвае сітуацыю з той, сярэднявечнай, а сябе гэтак жа сур'ёзна прыпадабняе да спаленага на кастры нацыянальнага героя — пакутніка Чэхіі. А як жа, ён, В.Якавенка, па яго сцвярджэнні, *"больш чым хто дбаў і дбае пра саюз".*

Нястомна дбаючы пра саюз, пра чысціню ягоных шэрагаў, выяўляе ганебную з'яву — залежнасць сябраў Рады ад Б.Пятровіча і А.Пашкевіча як рэдактараў, ад магчымасці друкавацца. Вось, маўляў, адкуль гэтыя *"прынцып хаўрусу",* беспрынцыповасць, *"страта сумлення, якое больш не вернецца"* (канчатковы прысуд сябрам Рады). Прытым ні словам, нават ні намёкам пра тыя, можна сказаць, экстрэмальныя ўмовы, у якіх даводзіцца жыць апальнаму пісьменніцкаму саюзу пасля адчужэння ўладамі яго маёмасці і перыядычных літаратурных выданняў. Вось такая прынцыповасць.

Ці нагадвае хоць крыху, паважаны Іосіф Паўлавіч, усё гэта, гэтая ваяўнічая "разборка" сапраўднае *"спадзяванне на аднаўленне ў шэрагах Саюза беларускіх пісьменнікаў",* жаданне быць разам з імі не толькі фармальна, але і маральна, духоўна? І, з другога боку, ці не дзіўна наогул выглядае жаданне быць у тым саюзе, які ўзначальваюць *"самазадаволеныя",* нячыстыя на руку кіраўнікі і падкупленая імі, маральна дэградаваная Рада? Пагадзіцеся, што — дзіўна.

Асаблівае месца займае ў "Перакуленым свеце Парнаса..." тэма пакаяння. Дужа акцэнтуе на ёй Васіль Цімафеевіч, акцэнтуе і ўсё ў тым жа духу ўтрыруе, скажае. Чытач "Народнай Волі" ўводзіцца ў зман. На самай жа справе — даю даведку — у ходзе пасяджэння не гучалі і словы гэтыя: *"пакаянне", "пакаяцца".* Не прамаўлялі іх ні старшыня саюза і яго намеснікі, ні хто-небудзь з сябраў Рады. Ішла адпаведная сітуацыі таварыская, прынцыповая, ды без якой-небудзь прадузятасці, тым болей — агрэсіўнасці размова.

У тым плане, ці ўсведамляе В.Якавенка адказнасць за сваю несумяшчальную з пісьменніцкай этыкай дзейнасць, за той маральны ўрон, які нанёс і прадаўжае наносіць найстарэйшаму ў краіне, адданаму беларускай справе творчаму саюзу. Іначшай размова не магла быць ужо хаця б па той простай прычыне, што дзяржаўныя органы (Мінюст, пракуратура, аддзел па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі), якія В.Якавенка, па яго ж словах, *"падключыў да выяснення абставін",* не знайшлі нічога процізаконнага ў фінансавай і арганізацыйнай дзейнасці кіраўніцтва СБП. Не знайшлі, хоць праверкамі займаліся, трэба думаць, вопытныя, спрактыкаваныя ў сваёй справе спецыялісты. І натуральна, што ў такім разе сябры Рады не толькі мелі маральнае права, ды і былі змушаны ставіць пытанне аб тым, каб колішні баявы старшыня рэвізійнай камісіі прызнаў сваю віну, публічна абверг свае, як ён кажа, *"істотныя прэтэнзіі да таго ці іншага",* гэта значыць, беспадстаўныя абвінавачанні. Так ставілі пытанне калегі па пяры. Гэтага патрабавала і элементарная жыццёвая логіка.

Ды ў аўтара "Перакуленага свету Парнаса...", як бачым, нейкая іншая логіка, іншая, не "парнаская" праўда.

Вось такія пірагі, паважаны Іосіф Паўлавіч. Не вельмі прывабныя, не зусім смачныя. І спечаныя яўна не па тым рэцэпце, пра які кранальна гаворыцца ў прадмове "Ад рэдакцыі": *"Ніхто і падумаць не мог, што тыя, хто павінен моцай усяго свайго таленту адстойваць дэмакратыю, свабоду слова, выключаць са складу СБП таго ж прынцыповага і ваяўнічага В.Якавенку".* Нейкая новая, скажу, трактоўка паняцця "дэмакратыя": усе ідуць не ў нагу, а толькі адзін, прынцыповы і ваяўнічы, рашуча тупае ў нагу. Яшчэ да таго ж заўважаеш, што прыведзенае выказванне рэдакцыі чамусьці літаральна, слова ў слова, паўтарае адпаведны пасаж у ранейшай публікацыі, якая была змешчана ў "Народнай Волі" за 19 кастрычніка 2012 года пад загалоўкам "Ці адновяць Васіля Якавенку ў шэрагах Сюза беларускіх пісьменнікаў?". "Там было: "Ніхто і падумаць не мог, што тыя, хто павінен моцай усяго свайго таленту..." і г.д. Там гэтыя словы належаць нейкаму Кастусю Вількоўскаму (псеўданім, вядома), а цяпер ужо ідуць ад самой рэдакцыі.

Трэба ж! Такая сімпатыя да аднаго і не меншая антыпатыя, недавер да іншых, да ўсіх астатніх? Няўжо такая пазіцыя газеты, паважаны Іосіф Паўлавіч? Аб'ектыўная? Аргументаваная? Не, не скажу так. Хаця, скажу, у рэдакцыі былі магчымасці для таго, каб разабрацца, быць аб'ектыўнай. Пасля з'яўлення ў газеце скандальнага артыкула "Мільянеры-жабракі, альбо Дзіўнае існаванне Саюза беларускіх пісьменнікаў" з заявай у адказ выступіла група вядомых паэтаў і празаікаў, сябраў Рады СБП. Ты, мяркую, памятаеш разважны тон заявы і яе змест. У ёй былі доказна, пераканаўча абвергнуты абвінавачанні ў адрас тагачаснага старшыні саюза А.Пашкевіча. Сам факт з'яўлення артыкула "Мільянеры-жабракі..." быў расцэнены як, па сутнасці, спроба дыскрэдытаваць дзейнасць аўтарытэтнай творчай арганізацыі. Потым, у снежні 2011 года, адбыўся чарговы, XVI па ліку, справаздачна-выбарчы з'езд пісьменніцкага саюза. Дэлегаты з'езда далі высокую ацэнку дакладу Алеся Пашкевіча "Беларуская літаратура — гарант нацыянальнай незалежнасці". Станоўча, без якіх-небудзь непрыемных пытанняў, прынялі справаздачу намесніка старшыні рэвізійнай камісіі Уладзіміра Сіўчыкава. Абралі старшынёй саюза Барыса Пятровіча (Сачанку). І амаль пераважнай большасцю пацвердзілі выключэнне з саюза Васіля Якавенкі.

Здавалася б, паважаны Іосіф Паўлавіч, што пасля ўсяго гэтага — гэтых кропак над "і" — ужо не было рэзону вяртацца газеце да "гучнага канфлікту паміж..." ("Ад рэдакцыі"). Не было рэзону, сэнсу не было. Тым болей — неабходнасці так актуалізаваць тэму.

Здавалася б. Ды вось: "Перакулены свет Парнаса...". Скажу шчыра, збянтэжыла не столькі з'яўленне чарговай "выкрывальнай" публікацыі Васіля Якавенкі, колькі той факт, што яна "гасцінна" змяшчаецца на паласе паважанай, папулярнай у добрым сэнсе слова газеты. Навошта? З якой мэтай? Дзеля чаго?

Пытаюся ж, вядома, не толькі ад сябе асабіста. Патэлефанаваў Ніл Гілевіч, і гэтыя пытанні гучалі падчас нашай размовы, якая стала своеасаблівым працягам яго памятных публікацый на старонках "Народнай Волі" — "Саюз пісьменнікаў: дзеля чаго ён патрэбен?" і "Каментар да апошняга пасяджэння Рады СБП". Пазваніў у дзень выхаду газеты доктар медыцынскіх навук і літаратар, прафесар Эдуард Іосіфавіч Збароўскі і спытаўся: "Што, усё тая ж гісторыя?" І загаварыў пра псіхалогію пазітыўную і псіхалогію негатыўную, пра маральную шкоднасць апошняй. Я, са свайго боку, прывёў у якасці ілюстрацыі згаданае вышэй інтэрв'ю са Стэфанам Эрыксанам, у прыватнасці яго пажаданне, каб мы, беларусы, былі больш добразычлівымі адзін да аднаго, больш адзін аднаго паважалі і "шукалі кампрамісы дзеля краіны".

Залатыя і ў час прамоўленыя (надрукаваныя) словы! І маюць самае непасрэднае дачыненне да тэмы майго адкрытага ліста. Заўважу, дарэчы, дарагі Іосіф Паўлавіч, што з імі, з мудрым пажаданнем нашага замежнага сябра пераклікаецца па-свойму твая "Калонка рэдактара". Маю на ўвазе твой артыкул "Пасля прэс-канферэнцыі...", а непасрэдна — радкі пра тое, што сёння нам трэба "не канфліктаваць паміж сабой, а аб'ядноўвацца дзеля агульнага ўратавання... І дзейнічаць рашуча ў інтарэсах краіны, у інтарэсах дзяржавы, у інтарэсах кожнага, хто жыве на нашай святой зямлі".

Абсалютна згодны тут з табой, шаноўны спадар рэдактар. Напраўду, нецярпімасць, самаедства, вузкаэгаістычнае высвятленне адносін паміж сабой, у тым ліку ў прафесійных асяродках, — недаравальная для нас, беларусаў, раскоша. Таму найперш і мусіў адкласці пачатае эсэ, іншыя літаратурныя справы і ўзяўся пісаць гэты адкрыты ліст. Менавіта дзеля нашай, беларускай справы.

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**

АД РЭДАКЦЫІ

**Пад адкрытым лістом знакамітага паэта Анатоля Вярцінскага можна было б напісаць толькі два словы — "Без каментарыяў". Калі б не адно "але"...**

**Навошта, шаноўны Анатоль Ільіч, уцягваць "Народную Волю" ў канфлікт, які вось ужо каторы месяц не згасае ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў? Газета не суддзя ні Вам, ні таму ж В.Якавенку. Мы ўсім даём слова. Галоўнае — каб разам з бруднай вадой, як кажуць, не выплюхнулі дзіця. Не згінуў бы ва ўнутраных разборках сам творчы саюз...**

ДА ВЕДАМА!

## 95-я ўгодкі БНР будуць адзначацца 24 сакавіка

*Аргкамітэт па святкаванні чарговых угодкаў БНР вызначыўся з фарматам мерапрыемства ў Мінску.*

У працы аргкамітэта ўдзельнічалі кіраўнікі ці прадстаўнікі Партыі БНФ, Аб'яднанай грамадзянскай партыі, руху "За свабоду", аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя" і іншыя.

Шэсце і мітынг у гонар 95-х угодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі вырашана правесці не ў панядзелак 25 сакавіка, а днём раней — у нядзелю. Вырашана таксама, што аптымальны час збору ўдзельнікаў — 12 гадзін на пляцоўцы каля ўваходу ў Батанічны сад. У заяўцы на шэсце будзе падавацца маршрут: праспект Незалежнасці, вуліца Сурганава, парк Дружбы народаў, дзе арганізатары і хочуць правесці мітынг.

Нагадаем, што яшчэ пару гадоў таму прадстаўнікі дэмакратычных сіл катэгарычна адмаўляліся ад правядзення мерапрыемстваў на плошчы Бангалор, патрабуючы дазволу на акцыі ў людных месцах. Ужо не патрабуюць...

ДАРЭЧЫ

## Рэха «шведскіх мядзведзікаў»

*Памежніка, які прапусціў "плюшавы дэсант", асудзілі на два гады калоніі ўзмоцненага рэжыму. Яго абвінавацілі ў тым, што ў парушэнне службовых абавязкаў ён не далажыў аб шведскім самалёце, які парушыў Дзяржаўную мяжу Беларусі.*

Прыгавор быў вынесены яшчэ 4 студзеня адным з ваенных судоў.

Нагадаем, што спачатку Міністэрства абароны і Дзяржаўны памежны камітэт увогуле заяўлялі, што ніякага парушэння мяжы не было, што ўсе паведамленні пра "дэсант мядзведзікаў" — гэта інтэрнэт-інсінуацыі. КДБ Беларусі, аднак, распачаў крымінальную справу па факце незаконнага перасячэння мяжы, у межах якой і былі затрыманы студэнт Інстытута журналістыкі Антон Сурапін, які размясціў на сваім сайце здымкі мядзведзікаў, рыэлтар Сяргей Башарымаў, што здаваў кватэру грамадзянам Швецыі (іх пазней выпусцілі), і невядомы ваеннаслужачы-памежнік, прозвішча якога да гэтага часу не вядома. Справа апошняга дайшла да суда.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Валяціна РЖАНЫХ: «З Вікай, калі сустракаемся, наогул пра тэніс не гаворым...»

Як вядома, у мінулую нядзелю Віка Азаранка выйграла прэстыжны турнір у сталіцы Катара (прызавы фонд — 2,369 млн долараў). У фінале наша суайчынніца перамагла, бадай што, сваю галоўную канкурэнтку — амерыканку Серэну Уільямс — 2:1.

— Віка зараз проста ў бліскучай форме, — распавяла "Народнай Волі" **Валянціна Ржаных, першы трэнер спартсменкі**. — Нават у лепшай, чым падчас турніру ў Аўстраліі. Яна дабавіла літаральна ва ўсіх кампанентах...



**— У вашай вучаніцы зараз, калі ведаеце, з'явіўся новы бойфрэнд — скандальны амерыканскі рэпер Рэдфу. Можа, гэты хлопец нейкім чынам падштурхоўвае Вікторыю да перамог?**

— Не ведаю, бойфрэнд ён ці нехта яшчэ, але, калі шчыра, то гэты малады чалавек мне не падабаецца. Ён, безумоўна, таксама сусветна вядомы, але, як мне падаецца, не для Вікі. Хоць чаго я буду лезці не ў сваю справу? Можа, гэты Рэдфу — добры чалавек... Дарэчы, з Сяргеем Бубкам (былым хлопцам спартсменкі) Віка мяне знаёміла. Вельмі спакойны.

**— Ці зможа Вікторыя ў бліжэйшы час вярнуць сабе званне першай ракеткі свету?**

— Я не магу сказаць, калі гэта адбудзецца па часе, але думаю, што так яно і будзе. Вікторыі ж пакуль усяго 23 гады. А той жа Серэне Уільямс ужо 31.

**— Зараз вы даяце нейкія парады знакамітай вучаніцы, калі сустракаецеся?**

— Калі мы сустракаемся, то пра тэніс наогул не гаворым. Ды і Віка сама цяпер можа каму заўгодна даць параду.

**Алесь СІВЫ.**

ФОТАФАКТ



Уважаемые жильцы, просьба у кого заключен договор на воду, сообщать показания по расходу до 30,31 числа каждого месяца.

| | Виды услуг | Ед. измер. | Количество | Тариф (руб) | Начислено (руб) | Соц.льгота (руб) | Перерасч. (руб) | Итог.сумма (руб) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Тех.обслуживание | кв.м. | 132,3 | | 198 450,00 | | | 198 450,00 |
| 2 | Отч. на кап.ремонт | кв.м. | 132,3 | 1 500,00 | 198 450,00 | | | 198 450,00 |
| 3 | Отопление | Гкал | 3,36642 | 240 000,00 | 807 940,80 | | | 807 940,80 |
| 4 | Вода-канализация | куб.м | 19 | 7 900,00 | 150 100,00 | | | 150 100,00 |
| 5 | Подогрев воды (9 м3) | Гкал | 0,82641 | 63 150,00 | 52 187,79 | | | 52 187,79 |
| | Техобслуживание ЗПУ | руб. | | | 3 000,00 | | | 3 000,00 |
| | Прочие усл (обслуж.лифта (на м2) | кв.м. | 132,3 | 178,99 | 23 680,38 | | | 23 680,38 |
| | Прочие усл (вывоз и обезвр.ТБО(н | кв.м. | 132,3 | 170,01 | 22 492,32 | | | 22 492,32 |

...ма адресной социальной помощи 0,00
...з. ИПУ на конец отчетн.периода по ХВ: 16м3; 2м3;
...з. ИПУ на конец отчетн.периода по ГВ: 16м3; 0м3;
...фон для справок 0296700792, 0297063304
ДОПОЛНИТЕЛЬНАЯ ИНФОРМАЦИЯ

| | |
|---|---|
| Итого начислено | 1 456 301 |
| Переходящий остаток | [illegible] |
| Пеня на 31.01.2013 | [illegible] |
| Возмещение земельного налога | [illegible] |
| Всего к оплате (на 31.01.2013) | 1 456 29[illegible] |
| ОПЛАТИТЬ | 1 456 30[illegible] |

Некаторыя мінчане ў шоку: за студзень плата за кватэру ў іх перавысіла 1 мільён рублёў.

Такія астранамічныя лічбы ў жыроўках аказаліся платай за тыя кватэры, дзі ніхто не зарэгістраваны. Як правіла, гэта кватэры, якія людзі атрымалі ў спадчыну пасля смерці бацькоў і не хочуць прадаваць, бо чакаюць, пакуль падрастуць свае дзеці і кватэры спатрэбяцца ім.

З 1 студзеня для такіх кватэр павысіўся кошт цэнтральнага ацяплення, водазабеспячэння і каналізацыі, тэхабслугоўвання квадратнага метра. І як цяпер за гэтыя кватэры разлічыцца?..

